# ЗА СВАБОДНАЕ верАВЫЗНАННЕ

№2 (28),
красавік-
чэрвень 2011

Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## Форум рэлігійнай свабоды арганізацыі «Адвакаты Еўропы»




Стар. 2

## Новае Палажэнне аб узаемадзеянні ўстановаў адукацыі з рэлігійнымі арганізацыямі: абмежаванне супрацоўніцтва

Стар. 3

## Мінімальная стандарты для цэркваў і супольнасцяў веры і перакананняў

Стар. 4

## Фальшивые нотки церковно-государственной симфонии



Стар. 7

***ХРАНАЛОГІЯ***

## Асноўныя падзеі

**8 красавіка** Міністэрствам адукацыі і БПЦ была падпісаная праграма супрацоўніцтва на 2011-2014 гг.

**14 красавіка** адбылася сустрэча Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам. Апошні заявіў, што, за выключэннем Расеі, больш нідзе ў свеце праваслаўныя арганізацыі не маюць такой магутнай і сістэмнай падтрымкі, як у Беларусі.

**18 красавіка** пракуратура Чыгуначнага раёну г. Гомеля вынесла афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закону кіраўніку і чатыром чальцам незарэгістраванай рэлігійнай абшчыны Міжнароднай рады цэркваў евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Інфармацыю пра дзейнасць суполкі — набажэнствы з удзелам вялікай колькасці вернікаў, у т.л. малалетніх, у прыватным доме, а таксама распаўсюд друкаванай і відэапрадукцыі — у пракуратуру перадало КДБ. Беларускае заканадаўства за падобную дзейнасць паводле арт. $193^1$ Крымінальнага кодэкса прадугледжвае крымінальную адказнасць у выглядзе штрафа, ці арышту на тэрмін да шасці месяцаў, ці пазбаўлення волі на тэрмін да двух год.

Паводле дадзеных Міністэрства Унутраных спраў, **23 і 24 красавіка**, на свята Пасхі, удзел у набажэнствах у праваслаўных і каталіцкіх храмах узяло больш за 1,1 млн. чалавек. У лік «прыняўшых удзел у набажэнствах» былі ўключаныя і тыя, хто наведаў храм для асвячэння пасхальнай ежы. Што тычыцца г. Мінска, то паводле інфармацыі ГУУС, праваслаўныя і каталіцкія храмы цягам двух дзён прынялі 450 тыс. чалавек.

**1 траўня** ў Ватыкане адбылася беатыфікацыя Яна Паўла II, папярэдняга Папы Рымскага.

**Цягам траўня-чэрвеня** ў СМІ адбылося абмеркаванне прынятага ў першым чытанні Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу законапраекту «Аб дапаможных рэпрадуктыўных тэхналогіях і гарантыях правоў грамадзян пры іх выкарыстанні», які выклікаў незадаволенасць з боку афіцыйных прадстаўнікоў Беларускай Праваслаўнай Царквы і Рыма-Каталіцкага Касцёлу ў Беларусі, у прыватнасці, было адзначана, што шэраг нормаў дадзенага дакумента супярэчыць хрысціянскаму падыходу да біяэтыкі, вучэнню пра зачацце, нараджэнне дзяцей, пачатак чалавечага жыцця.

*Працяг на старонцы 2.*

*ХРАНАЛОГІЯ*

# Асноўныя падзеі

*Працяг са старонкі 1.*

**Новая праваслаўная семінарыя** адкрыецца ў Віцебску паводле рашэння Сіноду Рускай Праваслаўнай Царквы на базе Віцебскага духоўнага вучылішча. Рэктарам семінарыі стане арх. Дзмітрый Віцебскі і Аршанскі. Семінарыя стане другой установай па падрыхтоўцы клірыкаў БПЦ у сучаснай гісторыі Беларусі. Першая — Мінская — была адноўленая ў 1989 г. у Жыровічах.

**У Менску** прайшлі мерапрыемствы па ўшанаванні памяці мітр. Мелхіседэка (Паеўскага), вядомага царкоўнага дзеяча 1920-1930-х гг., кіраўніка аўтаномнай Беларускай Праваслаўнай Царквы. У межах урачыстасцей 17 траўня на будынку Інстытута тэалогіі БДУ была адкрыта мемарыяльная дошка. У той жа дзень прайшла канферэнцыя, прысвечаная памяці Мітр. Мелхіседэка, а таксама гісторыі царквы ў 1920-1930-я гг., дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да рэлігіі.

**Новы святы** з'явіўся ў Беларускай Праваслаўнай Царкве — быў кананізаваны закатаваны ў 1919 г. бальшавікамі святар Канстанцін Жданаў, св. Канстанцін Шаркоўшчынскі.

**Паўлу Севярынцу**, які пасля прэзідэнцкай кампаніі і масавай маніфестацыі 19 снежня знаходзіўся ў следчым ізалятары КДБ, так і не дазволілі сустрэчы са святаром, нягледзячы на тое, што магчымасць такіх сустрэч прадугледжаная распарадкам СІЗА, а сам вязень і ягоная маці неаднаразова звярталіся да следчага з просьбай такую сустрэчу дазволіць, была дамоўленасць і са святарамі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Таццяна Севярынец неаднаразова спрабавала сустрэцца з кіраўніцтвам БПЦ, і ўрэшце, вікарны епіскап Мінскай епархіі Веніямін паабяцаў пахадайнічаць аб наведанні Паўла святаром, аднак і ягоныя намаганні засталіся марнымі. Не ўдалося сустрэцца са святаром і іншаму палітвязню Уладзіміру Яроменку, які ўтрымліваецца ў СІЗА №1 (т.зв. «Валадарка»).

**Прыканцы траўня 2011 г.** быў апублікаваны Зварот Арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча адносна сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, у якім іерарх Рыма-Каталіцкай Царквы выказаў сваю занепакоенасць датычна атмасферы, якая склалася ў краіне. Ён заклікаў улады і грамадства кіравацца ўзаемнай любоўю і пашанай.

*МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ*

# Пасяджэнне Працоўнай групы КЕЦ па правах чалавека і свабодзе сумлення

Першае пасяджэнне адноўленай Працоўнай групы па правах чалавека і свабодзе сумлення Камісіі «Царква і грамадства» Канферэнцыі Еўрапейскіх Цэркваў адбылося 12-14 траўня 2011 г. у Брусэлі. На сустрэчы былі заслуханыя даклады аб сітуацыі з правамі чалавека і свабодай сумлення ў розных краінах Еўропы, абмеркаваныя прыярытэты і праграма дзейнасці групы на будучы год. У пасяджэнні ўзяла ўдзел і прадстаўніца Беларусі Наталля Васілевіч, якая была абраная ў склад групы Выканаўчым Камітэтам КЕЦ.

# Форум рэлігійнай свабоды арганізацыі «Адвакаты Еўропы»

Традыцыйнае штогадовае мерапрыемства арганізацыі «Адвакаты Еўропы» і Евангельскага і Еўрапейскага Альянсу — Форум рэлігійнай свабоды — адбылося 12-15 траўня 2011 г. у Стамбуле. У форуме ўзялі ўдзел прадстаўнікі розных еўрапейскіх краін, Беларусь прадстаўлялі юрыст і праваабаронца Сяргей Шаўцоў і грамадскі актывіст Дзяніс Гіль, яны прадставілі даклад аб становішчы з рэлігійнай свабодай у Рэспубліцы Беларусь.




**Дзяніс Гіль на Форуме рэлігійнай свабоды ў Стамбуле**

ДЗЯРЖАЎНА-КАНФЕСІЙНАЕ ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ Ў ГАЛІНЕ АДУКАЦЫІ

# Новае Палажэнне аб узаемадзеянні ўстаноў адукацыі з рэлігійнымі арганізацыямі: абмежаванне супрацоўніцтва

У Беларусі не першы год ідуць гарачыя дыскусіі датычна ўдзелу рэлігійных арганізацый у навучальным працэсе, асабліва актыўна ў гэтым накірунку працуе Беларуская Праваслаўная Царква, спрабуючы дабіцца ўвядзення, калі не на абавязковай, дык на факультатыўнай падставе заняткаў па праваслаўнай рэлігіі. Гэтае пытанне з'яўляецца адным з асноўных на сустрэчах праваслаўных іерархаў з дзяржаўнымі чыноўнікамі рознага рангу. Паводле папярэдніх пагадненняў БПЦ з Міністэрствам адукацыі, што былі заключаныя пасля прыняцця Закону «Аб свабодзе сумлення і рэлігіных арганізацыях» (2002) і пагаднення паміж БПЦ і Рэспублікай Беларусь (2003), у краіне павінна было пашырацца супрацоўніцтва ў галіне выхавання і адукацыі, чакалася, што будуць адкрывацца праваслаўныя класы і праваслаўныя гімназіі, але на справе, гэтага не адбылося, наадварот, удзел БПЦ у навучальным працэсе, асабліва не ў сталіцы, скараціўся. Цяпер сітуацыя ўскладняецца з заключэннем кожнага новага пагаднення і прыняццем новых нарматыўна-прававых актаў.

24 чэрвеня Саветам Міністраў было зацверджана «Палажэнне аб парадку, умовах, змесце і формах узаемадзеяння ўстаноў адукацыі з рэлігійнымі арганізацыямі ў пытаннях выхавання навучэнцаў», якое ў прыватнасці прадугледжвае, што ўстановы адукацыі могуць у па-занавучальны час узаемадзейнічаць з зарэгістраванымі рэлігійным арганізацыямі, якія ўваходзяць у склад рэспубліканскага рэлігійнага аб'яднання, якое заключыла адпаведнае пагадненне аб узаемадзеzнні ў пытаннях выхавання навучэнцаў з Міністэрствам адукацыі ў межах пагаднення аб супрацоўніцтве рэлігійнай арганізацыі з Рэспублікай Беларусь. Удзел навучэнцаў у мерапрыемствах, што праводзяцца ў рамках плану выхаваўчай працы супольна з рэлігійнай арганізацыяй, дапускаецца толькі на падставе пісьмовых заяваў навучэнцаў (ці іх законных прадстаўнікоў), прычым такая згода мусіць штогадова пісьмова пацвярджацца.

Што тычыцца зместу супрацоўніцтва, то ўласна рэлігійны кампанент зводзіцца да мінімуму: гэта грамадзянскае, маральнае і патрыятычнае выхаванне, азнаямленне з гісторыка-культурнай і духоўнай спадчынай, праца з недабрабытнымі сем'ямі, арганізацыя вольнага часу і аздараўлення дзяцей і падлеткаў, праца з дзецьмі-сіротамі, прафілактыка правапарушэнняў, прапаганда здаровага ладу жыцця, ахова навакольнага асяроддзя, а таксама, прафілактыка ўплыву на моладзь рэлігійных арганізацый, дзейнасць якіх скіравана супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе канстытуцыйнага ладу і грамадзянскай згоды, альбо звязана з парушэннем правоў і свабодаў грамадзян.

Формы супрацоўніцтва паводле новага Палажэння носяць выхаваўчы характар: гутаркі, экскурсіі, падрыхтоўка і правядзенне святаў і інш. Пры гэтым забараняецца ананімная дзейнасць рэлігійных арганізацый, прадстаўнікоў замежных рэлігійных арганізацый, місіянерская дзейнасць, здыманне аплаты з навучэнцаў ці збор добраахвотных і іншых ахвяраванняў на патрэбы рэлігійных арганізацый ці дабрачынных праграм, якія імі арганізаваныя, распаўсюд рэлігійнай літаратуры, аўдыё-, відэа- і інш. матэрыялаў рэлігійнага зместу (апроч заяўленых у спісах да праграм выхаваўчай працы), правядзенне богаслужэнняў, рэлігійных абрадаў, рытуалаў і цырымоній, размяшчэнне ва ўстановах адукацыі рэлігійных сімвалаў і культавай маёмасці. Цяпер у думках перанясемся ў новы навучальны год — а менавіта з 1-га верасня пачынае дзейнічаць Палажэнне — і на канкрэтных прыкладах разгледзім, што цяпер будзе забаронена ва ўстановах адукацыі, у т.л. і для праваслаўнай царквы. Больш не зможа выступіць перад студэнтамі дыякан А. Кураеў, бо з'яўляецца прадстаўніком замежнай рэлігійнай арганізацыі. Больш не змогуць рэлігійныя арганізацыі прымаць ад навучэнцаў цацкі для дзіцячага дому, бо гэта будуць «іншыя ахвяраванні на патрэбы дабрачынных праграм». Не змогуць на класнай гадзіне прадэманстраваць новы фільм Васіля Яцкіна ці Свята-Елізавецінскага манастыра, калі фільм выйдзе пасля заяўлення спісаў да праграм навучальнай працы. Не кажучы ўжо пра правядзенне малебнаў перад пачаткам навучальнага году. Яшчэ не сціхла жарсці вакол гучнай справы Лаўці супраць Італіі (справа «ўкрыжаванняў»), якую разглядаў Еўрапейскі Суд па правах чалавека, а ў Беларусі размяшчэнне рэлігійных сімвалаў ва ўстановах адукацыі строга забаронена, і пакуль ніякага ляманту не чуваць, усе абаронцы ўкрыжаванняў у класных пакоях некуды зніклі. Калі справа далёкай Італіі атрымала рэзананс па ўсёй Еўропе, а таксама ў Беларусі і Расіі, і тады Патрыярх Кірыл і іншыя іерархі выступалі з рэзкай крытыкай рашэння Еўрапейскага суда, то цяпер, калі аналагічнае рашэнне прынятае на вышэйшым узроўні ў Беларусі, асаблівай занепакоенасці не назіраецца, наадварот, Беларуская Праваслаўная Царква заяўляе пра новыя крокі да супрацоўніцтва з беларускай дзяржавай у галіне адукацыі і не губляе аптымізму.

ДАКУМЕНТЫ: КАНФЕРЭНЦЫЯ ЕЎРАПЕЙСКІХ ЦЭРКВАЎ

# Мінімальная стандарты для цэркваў і супольнасцяў веры і перакананняў

## Уводзіны

*З 6 па 10 лістапада 2002 г. Працоўная група па правах чалавека і свабодзе рэлігіі Камісіі «Царква і грамадства» Канферэнцыі Еўрапейскіх Цэркваў (КЕЦ) арганізавала ў Вене кансультацыю на тэму:«Свабода рэлігіі — супольнасці большасці і меншасцяў ў стасунках з дзяржавай». Прымаючы ва ўвагу вынікі гэтай канферэнцыі, Працоўная група па правах чалавека і свабодзе рэлігіі КЕЦ абмеркавала і прыняла дадзеныя «мінімальныя стандарты» (мінімальныя правы) для супольнасцяў веры і перакананняў, якія прадстаўляюцца Цэрквам-членам КЕЦ для наступнай дыскусіі.*

Гэтыя мінімальныя стандарты заснаваныя на наступных меркаваннях:

Падмурак для гэтых мінімальных правоў (мінімальных стандартаў) для цэркваў і рэлігійных супольнасцяў (у т.л. супольнасцяў перакананняў) закладзены ў Канвенцыі па абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў (Еўрапейская канвенцыя пра правах чалавека, ЕКПЧ) і ў яе дадатковым пратаколе №1. Паводле агульнапрызнанага прававога вучэння і тлумачэння (былой) Еўрапейскай Камісіі па правах чалавека і Еўрапейскага суда па правах чалавека, не толькі індывіды (фізічныя асобы), але таксама цэрквы і рэлігійныя супольнасці падпадаюць пад дзеянне арт. 9 ЕКПЧ. Апроч індывідуальнага складніка свабоды рэлігіі, арт. 9 таксама ўключае права рэлігійных супольнасцяў і цэркваў свабодна самаарганізоўвацца. Апроч індывідуальнага складніку свабоды рэлігіі, прысутнічае і карпаратыўны складнік.

Грунтуючыся на тлумачэнні (былой) Еўрапейскай камісіі па правах чалавека, абмежаванае права на самавызначэнне (абмежаванае права на самакіраванне) для цэркваў і рэлігійных супольнасцяў таксама можа быць выведзена. Такое меркаванне падзяляецца большасцю правазнаўцаў.

Кансультацыя КЕЦ «Свабода веравызнання: Цэрквы большасці і меншасцяў ў стасунках з дзяржавай» вельмі яскрава паказала, што ў Еўропе разам суіснуе мноства розных дзяржаўна-царкоўных сістэм, якія, з аднога боку, рэгулююць адносіны паміж дадзенай дзяржавай і цэрквамі і рэлігійнымі супольнасцямі, а з іншага боку, паміж самімі цэрквамі і рэлігійнымі супольнасцямі.

Існуюць, напрыклад, дзяржаўна-царкоўныя сістэмы, у адпаведнасці з якімі, цэрквы большасці як дзяржаўныя цэрквы адыгрываюць асаблівую ролю ва ўзаемададносінах з іншымі рэлігійнымі супольнасцямі. У адпаведнасці з іншымі сістэмамі, царква большасці (супольнасць большасці) знаходзіцца ў роўным становішчы з царквой меншасці (супольнасцю меншасці). Гэтыя розныя царкоўна-дзяржаўныя сістэмы ў Еўропе, якія адлюстроўваюць асаблівасці гістарычнага і культурнага развіцця канкртэтнай дзяржавы, могуць і павінны працягваць існаваць у адпаведнасці са сваімі асноўнымі прынцыпамі, калі яны адпавядаюць ЕКПЧ і яе дадатковым пратаколам. Аднак, таксама і ў тых дзяржавах, дзе цэрквы большасці (супольнасці большасці) ці асаблівыя цэрквы і рэлігійныя супольнасці маюць спецыяльны юрыдычны стастус, павінна прытрымлівацца прынамсі (абмежаваная) нейтральнасць дзяржавы ў дачыненні да іншых цэркваў і рэлігійных супольнасцяў.

У адпаведнасці з гэтым дакументам, прадстаўленым Працоўнай групай па правах чалавека і свабодзе рэлігіі Канферэнцыі Еўрапейскіх Цэркваў для далейшага абмеркавання, кожная дзяржава мусіць забяспечыць пэўныя мінімальныя правы (мінімальныя стандарты) для кожнай царквы і рэлігійнай супольнасці, асабліва для цэркваў меншасцяў (супольнасцяў меншасцяў). У дзяржавах, дзе няма прывелеяванага статусу для пэўных цэркваў і рэлігійных супольнасцяў, гэтыя стандарты мусяць ужывацца для ўсіх цэркваў і рэлігійных супольнасцяў. Трэба адзначыць, што наступныя мінімальныя стандарты прадугледжваюцца для цэркваў і рэлігійных супольнасцяў і яны не павінны разглядацца як правы індывідаў (фізічных асобаў), практыкуючых сваю рэлігію.

## Права на ўтварэнне юрыдычнай асобы

1. Кожная супольнасць з уласным рэлігійным ці веравызнаўчым вучэннем павінна мець права на ўтварэнне юрыдычнай асобы, як у спецыяльна створаным для супольнасцяў веравызнання і перакананняў статусе, так і ў статусе больш агульнага характару, даступны таксама і для іншых мэтаў. У любым выпадку (і пры любым юрыдычным статусе), павінны ужывацца наступныя крытэрыі.

2. Утварэнне юрыдычнай асобы мусіць ажыццяўляцца выключана як працэдура рэгістрацыі і не быць прадметам дазволу адпаведных дзяржаўных органаў ці судоў. Працэдура рэгістрацыі мусіць разумецца як працэдура, у адпаведнасці з якой, супольнасць веравызнання ці перакананняў атрымлівае статус юрыдычнай асобы паводле заявы, калі адпаведныя дзяржаўныя органы ці суды не адмаўляюць у юрыдычным статусе на працягу перыяду, не больш за шэсць месяцаў з моманту яе падачы. Дзяржаўныя органы ці суды мусяць выдаць пацверджан-

не, што статус юрыдычнай асобы быў нададзены.

3. Супольнасці веравазнання і перакананняў можа быць адмоўлена ў статусе юрыдычнай асобы толькі на падставе пар. 2 арт. 9 ЕКПЧ у спалучэнні з арт. 17 ЕКПЧ, і пасля прадстаўлення прычын, вычарпальна пералічаных у пар. 2, арт. 9 ЕКПЧ і ў арт. 17 ЕКПЧ. Цяжар доказвання наяўнасці прычын, пералічаных ў пар. 2, арт. 9 ЕКПЧ і ў арт 17 ЕКПЧ ляжыць на дзяржаўных органах (судах).

4. Супольнасці веравызнання і перакананняў, адпаведна, іх заснавальнікам (ці паслядоўнікам хрысціянскай супольнасці), павінна быць нададзена права утвараць аўтаномна і без умяшальніцтва з боку дзяржавы свае структуры, якія маюць быць іх органамі кіравання, а таксама вызначаць абавязкі і працэдуры ўнутры супольнасці.

5. Пасля ўтварэння юрыдычнай асобы ліквідацыя ці адкліканне прававога статуса можа быць магчымым толькі на падставе рашэння ўпаўнаважанага дзяржаўнага органа (ці суда) і ў адпаведнасці з прычынамі, пералічанымі ў пар. 2 арт. 7 і арт. 17 ЕКПЧ, ці ў выпадках, калі супольнасць больш не мае членаў, ці цягам году па віне самой супольнасці не мае створанага органа, які мог бы прадстаўляць яе ў стасунках з дзяржавай. Цяжар доказвання наяўнасці адной з гэтых прычын ляжыць на дзяржаўных органах (судзе).

6. Іншыя супольнасці веравызнання і перакананняў (у т.л. цэрквы большасці) не могуць умешвацца ў працэдуры рэгістрацыі ці пазбаўлення статусу юрыдычнай асобы, апроч як выключна ў выпадках неабходнасці абароны ўласнага імя. Гэтыя працэдуры мусяць ажыццяўляцца справядлівым чынам.

7. Рашэнні датычна адмовы ў юрыдычным статусе, а таксама рашэнні аб пазбаўленні юрыдычнага статусу (ліквідацыі) павінны заўсёды быць прадметам прававых сродкаў судовай абароны і разгляду незалежнымі судамі, у прыватнасці, канстытуцыйнымі.

8. Супольнасці веравызнання і перакананананняў не павінны, аднак, быць абавязанымі утвараць юрыдычную асобу. Калі супольнасць веравызнання і перакананняў вырашае не звяртацца па статус юрыдычнай асобы, яе члены могуць патрабаваць права практыкаваць уласную рэлігію паводле арт. 9 ЕКПЧ толькі як індывіды.

## Правы (стандарты) супольнасці веравызнання і перакананняў свабодна практыкаваць сваю рэлігію

9. Супольнасць веравызання і перакананананняў, утвораная як юрыдычная асоба, павінна як такая на падмурку дзяржаўных нормаў быць здольнай практыкааваць і ажыццяўляць свае погляды ў адпаведнасці са сваім уласным разуменнем (у адпаведнасці са сваёй уласнай верай і перакананнямі).

10. Супольнасць веравызання і перакананананняў павінна мець магчымасць практыкаваць сваю веру публічна і свабодна, у сваіх уласных, прызначаных для гэтага, культавых збудаваннях, але таксама ў іншых месцах і памяшканнях, якія даступныя для грамадскасці, у адпаведнасці з уласнымі абрадамі, традыцыямі і г.д. Супольнасць павінна таксама быць здольнай прадпрымаць меры па прыцягванні людзей на свае рэлігійныя мерапрыемствы, малітоўныя служэнні і г.д., і да сваіх вераванняў (рэлігійных вучэнняў, вызнанняў); аднак яна павінна рабіць гэта належным чынам без ужывання маральнага ці фізічнага ціску ці матэрыяльнага заахвочвання. Калі члены супольнасці належаць пераважна да моўнай меншасці, ужыванне адпаведнай мовы павінна быць дазволена ў практыкаванні рэлігіі, у т.л. у публічным.

11. Супольнасць веравызання і перакананананняў, утвораная як юрыдычная асоба, павінна таксама недыскрымінацыйным чынам, але ў адпаведнасці з агульнапрынятымі дзяржаўнымі нормамі быць здольнай засноўваць дыяканічныя інстытуцыі, такія, як шпіталі, працоўныя месцы для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, дамы састарэлых, школы мядсёстраў і г.д., а таксама школы (месцы навучання). Супольнасці веравызання і перакананананняў, утворанай як юрыдычная асоба, павінна таксама быць дазволена дзяржавай працаваць праз місію, гуманітарную дапамогу (супрацоўніцтва дзеля развіцця), і супрацоўнічаць з цэрквамі і рэлігійнымі супольнасцямі як у сваёй краіне, так і за мяжой, асабліва з экуменічнымі арганізацыямі.

12. Павінна быць гарантавана права супольнасці набываць зямлю і будынкі і даваць назвы такім зямельным участкам і будынкам.

13. Супольнасць веравызання і перакананананняў, утвораная як юрыдычная асоба, павінна мець права ў адпаведнасці з агульна прынятымі і недыскрымінацыйнымі дзяржаўнымі нормамі публічна рабіць свае погляды вядомымі, у прыватнасці, праз выданне, публікацыю і распаўсюд газет, праз часопісы, фільмы, радыё і тэлевізійныя праграмы.

14. Любая дыскрымінацыя ў гэтым дачыненні прадстаўляе несправядлівую шкоду для супольнасцяў веравызання і перакананняў у параўнанні з іншымі інстытуцыямі, арганізацыямі і юрыдычнымі асобамі ў грамадстве.

## Свабода ад кантролю дзяжавы і іншых рэлігійных супольнасцяў

15. Усе малітоўныя служэнні і іншыя мерапрыемствы, якія праходзяць у нерухомай маёмасці супольнасці веравызнання і перакананняў не павінны быць прадметам любога кшталту кантролю, у т.л. любога афіцыйнага кантролю з боку дзяржаўных органаў. Публічныя рэлігійныя мерапрыемствы, што праводзяцца па-за уласнымі памяшканнямі (культавымі збудаваннямі і г.д.), у месцах, даступных для агульнай грамадскасці, таксама не могуць быць прадметам кантролю дзяржавай ці іншай царквой ці рэлігійнай супольнасцю што датычыць зместу такіх мерапрыемстваў.

Аднак публічныя сходы (у т.л. публічныя мерапрыемствы, які праводзяцца па-за ўласнай нерухомай маёмасцю, павінны быць прадметам недыскрымінацыйных абмежаванняў, такіх, якія ужываюцца да ўсіх і кожнай нерэлігійнай арганізацыі у адпаведнасці з ЕКПЧ пар. 2 арт. 11 (абмежаванні на свабоду сходаў).

16. Спробы зрабіць свае погляды вядомыя грамадскасці праз, напрыклад, выданне газет, часопісаў, фільмаў, а таксама праз радыё- і тэлевяшчанне не павінны быць прадметам цэнзуры.

17. Калі супольнасць веравызання і перакананананняў, утвораная як юрыдычная асоба, кіруе дыяканічнымі інстытуцыямі і школамі (месцамі навучання) і пад., яны могуць быць прадметам толькі такога дзяржаўнага нагляду, які ўжываецца да іншых, нерэлігійных юрыдычных асоб, але гэта не можа распаўсюджвацца на рэлігійны змест такой дзейнасці.

*Працяг на старонцы 6.*

*Працяг са старонкі 5.*

Не можа дапускацца дзяржаўны нагляд за выхаваннем уласнага персаналу (святары, пастары, прыходскія катэхізатары, моладзевыя лідары, міране-чытары і пад.) ва ўласных навучальных інстытуцыях.

## Недапушчэнне дыскрымінацыі ў сферы падаткаабкладання і нерухомай маёмасці

18. Супольнасць веравызнання і перакананананняў, утвораная як юрыдычная асоба, не павінна быць дыскрымінаваная ў сферы падаткаабкладання, асабліва што датычыць падаткаў на яе маёмасць, падаткі па спадчыне (абавязкі па смерці) і падаткі на аб'ект дарэння, а таксама падаткі на ўласнасць зямлі і нерухомай маёмасці. Дыскрымінацыя ў гэтым дачыненні выяўляецца ў тым, што падаткі здымаюцца паводле розных ставак (не заснаваных на аб'ектыўных прычынах) у параўнанні са стаўкамі, прынятымі для іншых інстытуцый і свецкіх арганізацый. Фінансавы аўдыт падатковымі інспекцыямі супольнасцяў веравызнання і перакананняў, утвораных як юрыдычная асоба, павінен праводзіцца такім жа чынам, як і аўдыт іншых, нерэлігійных арганізацый, і павінен тычыцца толькі пытанняў, якія з'яўляюцца прадметам падатковага заканадаўства без пасягальніцтва на карпаратыўную і індывідуальную рэлігійную свабоду супольнасці і яе членаў.

19. Для ўзвядзення культавых збудаванняў (такіх як цэрквы і пад.) супольнасці веравызнання і перакананняў, утвораныя як юрыдычныя асобы, не павінны быць аб'ектам якіхсьці спецыяльных ці дадатковых патрабаванняў для дазволу на будаванне. У дадатак, дзяржавы павінны забяспечваць супольнасці магчымасцю ўзвядзення іх культавых збудаванняў у адпаведнасці з іх уласным самаразуменнем (напрыклад, царкве не можа быць забаронена, у прынцыпе, будаўніцтва храму ці вежы са званамі).

## Правы (стандарты), што закранаюць наёмных супрацоўнікаў і членаў супольнасці веравызнання і перакананняў

20. Што датычыць прафесійных і добраахвотных наёмных супрацоўнікаў, у чые абавязкі ўваходзіць публічнае вызнанне веры (такіх як святары, пастары, прыходскія катэхізатары, моладзевыя лідары, настаўнікі рэлігіі) і якія маюць паўнамоцтвы быць прадстаўнікамі пэўнага веравызнання («Tendenzträger») – супольнасці веравызнання і перакананняў — павінны быць абароненыя паводле працоўнага заканадаўства. На практыцы гэта значыць, што прыняцце на працу і заканчэнне працаўладкавання прафесійных ці добраахвотных супрацоўнікаў (у т.л. звальнення да заканчэння кантракту) ці іх перавод на іншую пазіцыю, не знаходзяцца ў сферы кантролю дзяржавы і яе юрыдычнай сістэмы.

21. Палажэнні працоўнага заканадаўства — што датычыць, напрыклад, дзён адпачынку, нядзеляў і святаў ці абмежавання начной працы — не павінны быць перашкодай для правядзення культавых служэнняў і іншых абрадаў супольнасці прафесійнымі ці добраахвотнымі супрацоўнікамі (такімі, як святары, пастары, прыходскія катэхізатары, моладзевыя лідары, настаўнікі рэлігіі).

22. Мусіць быць абаронена канфідэнцыйнасць душпастырскіх размоваў і споведзяў, у адпаведнасці з сама-разуменнем кожнай супольнасці. У прыватнасці, прафесійныя і добраахвотныя супрацоўнікі, якія ўдзельнічаюць у душпастырстве, маюць права адмовіцца раскрыць канфідэнцыйную інфармацыю ў любой судовай ці іншай працэдуры дзяржаўных органаў.

23. На запыт членаў супольнасці, супрацоўнікі супольнасці павінны мець магчымасць забяспечыць душпастырскую апеку членам, якія знаходзяцца ў інстытуцыях, такіх, як шпіталі, дамы састарэлых, турмы ці вайсковыя часткі (у выпадку агульнай абавязковай вайсковай службы). У асаблівых выпадках прыймальнымі могуць быць тыя абмежаванні, якія вынікаюць з прыроды інстытуцый.

24. Дзеці членаў супольнасці веравызнання і перакананняў, утворанай як юрыдычная асоба, не павінны быць абавязаныя дзяржавай праходзіць рэлігійную адукацыю з боку іншай супольнасці веравызнання, у прыватнасці супольнасці большасці, а таксама яны не могуць быць абавязаны наведваць богаслужэнні іншых супольнасцяў у час навучання ў школе. Тое самае ўжываецца ў выпадку абавязковай вайсковай службы.

25. Члены супольнасці веравызнання і перакананняў, утворанай як юрыдычная асоба, (у т.л. супольнасцей меншасці) павінны мець магчымасць пры падачы асабістых дадзеных дзяржаўным органам і судам, як у выпадку рэгістрацыі месца жыхарства ці перапісу, згадваць пра сваё членства ў супольнасці веравызнання і перакананняў (але не могуць быць абавязаныя гэта рабіць). Дыскрымінацыяй з'яўляецца, калі члену супольнасці меншасці прапануецца толькі адзін выбар — пазначыць, што ён ці яна не з'яўляюцца членамі супольнасці большасці. Члены адной супольнасці (напрыклад, супольнасці меншасці) не могуць быць прымушаныя рэгістраваць нараджэнне, шлюб, смерць і іншыя грамадзянскія станы ў офісах, кіраваных іншай супольнасцю (напрыклад, царквой большасці), на якія дзяржавай ускладаецца такая рэгістрацыя.

26. Кожнай супольнасці веравызнання і перакананняў дзяржавай павінна быць гарантаванае права прымаць новых членаў з ліку тых, хто папярэдне належыў да іншай супольнасці ці рэлігійнага таварыства, асабліва супольнасці большасці, але выйшаў з гэтага членства паводле сваёй свабоднай волі. Дзяржава таксама павінна гарантаваць членам любой рэлігійнай супольнасці права адмаўляцца ад свайго ў ёй членства без усялякіх перашкодаў.

## Абарона правоў

27. Мінімальныя асноўныя правы любой супольнасці веравызнання і перакананняў, утвораных як юрыдычная асоба, асабліва супольнасці меншасці, і яе членаў у кантэксце індывідуальнай і карпаратыўнай свабоды рэлігіі, павінны быць абароненыя правам звяртацца ў незалежны суд для разгляду і праваўжывання.

*Брусэль, 21 лістапада 2009*

---

*Канферэнцыя Еўрапейскіх Цэркваў (КЕЦ) — гэта садружнасць каля 120 Праваслаўных, Пратэстанцкіх, Англіканскіх і Стара-Каталіцкіх Цэркваў, а таксама 40 асацыяваных арганізацый з усіх (апроч Беларусі) краінаў на Еўрапейскім кантынеце. КЕЦ была заснаваная ў 1959 г. Уваходзіла туды і Руская Праваслаўная Царква, аднак у 2008 г. яна перапыніла сваё членства ў сувязі з канфліктнай сітуацыі ў Эстоніі, звязанай з наяўнасцю дзвюх праваслаўных юрысдыкцый — Канстанцінопальскага і Маскоўскага Патрыярхатаў.*

*АНАЛІТЫКА: ДЗЯРЖАЎНА-КАНФЕСІЙНЫЯ АДНОСІНЫ*

# Фальшивые нотки церковно-государственной симфонии

***Василевич Наталья, Агенство политической экспертизы BISS***

Уже почти месяц назад состоялась традиционная встреча Президента Республики Беларусь Александра Лукашенко с Синодом Белорусского Православной Церкви, на котором белорусские епископы привычно благодарили президента за помощь и просили ее продолжать, но сейчас основное внимание обращалось не на введение православного образования в школе, которого добиться не получается уже много лет, но хотя бы на то, чтобы в школе проводилось семейное воспитание. Вопрос демографии выходит на первый план в обсуждении — на Синоде поднимались также вопросы о необходимости ограничения абортов, социальной рекламы их недопустимости, в то время как необходима такая реклама для института семьи, материнства, ценности человеческой жизни. Как выяснится позже, митрополит Филарет в своей речи, казалось, намекал на готовящийся законопроект о «репродуктивных технологиях», обсуждение которого уже шло в БПЦ, однако напрямую обратиться к президенту по поводу этого вопроса он так и не решился.

Потом же вопрос репродуктивных технологий и их недопустимости, а также то, что к голосу Православной Церкви никто не прислушался, в довольно жесткой форме затронул новый пресс-секретарь Минской епархии прот. Сергий Лепин. В частности, он заявил, что принятый в первом чтении Палатой представителей законопроект "О вспомогательных репродуктивных технологиях" "находится в резком противоречия с точкой зрения Православной Церкви, ее учением. В социальной концепции Русской Православной Церкви, принятой на последнем Архиерейском соборе, церковь однозначно выразило свое отношение к подобного рода технологиям".

Это уже не первый раз, когда православный священник позволяет себе высказываться в СМИ с критикой законодательных актов. В мае 2007 г. о необходимости изменения закона "О свободе совести" выступил священник Александр Шрамко. Реакция со стороны государственных органов была очень быстрой, сначала священника вызвали в Аппарат Уполномоченного по делам религии, где сообщили, что Белорусскому Экзархату были высказаны претензии по поводу заявлений священника и ожидается, что БПЦ от таких заявлений должно дистанцироваться, что в конце концов привело к поспешному церковному суду и запрету Александра Шрамко в служении. Интересно, что тогда священник Сергей Лепин полностью поддержал этот запрет и высказался о недопустимости предоставления серьезных комментариев касательно законов без благословения иерархии, так как иначе это будет вмешательством в политику.

Теперь же в сложную ситуацию попал сам прот. Лепин, жестким, к тому же не совсем компетентным, комментарием вызвав недовольство Министерства здравоохранения — которое и разрабатывало данный законопроект. Более того, сама позиция данного священника как пресс-секретаря подразумевает, что его заявления, в отличие от заявлений упомянутого священника Шрамко, носят официальный характер. Интересно проследить, чем же закончится назревший конфликт, чью сторону займет руководство БПЦ.

Похоже, что если бы руководство БПЦ действительно хотело высказаться по поводу законопроекта, то на Синоде у митрополита Филарета был неплохой шанс включить обсуждение данного вопроса в повестку дня встречи с Президентом, но тот ограничился действующим постановлением Совета Министров № 1580 от 23.10.2008, в котором оговорены социальные показания для проведения в учреждениях здравоохранения абортов, а также высказался относительно добровольности в отношении использования электронных средств идентификации граждан (речь идет об индивидуальных идентификационных номерах в паспортах нового образца). Так вот, сейчас, в сложившихся условиях, кого поддержит руководство — своего пресс-секретаря (и тогда, как и католический иерарх митрополит Кондрусевич выступит с заявлением критики законопроекта) или Минздрав? Тем более, что аргументы первого о несоответствии положений разработанного текста христианским ценностям и "Основам социальной концепции РПЦ" достаточно сомнительны. Последняя не видит проблемы в использовании репродуктивных технологий как таковых, если при этом используется генетический материал в пределах пары, которая находится в браке, а также исключается уничтожение оплодотворенных яйцеклеток и последующая редукция эмбрионов для избежания многоплодности. Претензии высказываются, в первую очередь, в отношении использования донорских половых клеток, а также услуг суррогатной матери. Однако нельзя не заметить, что закон, который принимается Палатой представителей, намного ближе стоит к защите человеческой жизни, в т.ч. и на ранних стадиях развития (вводит ограничения для донорства, использования ЭКО, а также предусматривает более строгую регламентацию суррогатного материнства), чем законодательство, действующее в Беларуси сейчас. В частности, любые манипуляции с половыми клетками возможны только с согласия доноров, а с эмбрионами — только с согласия родителей, существуют ограничения по количеству подсаживаемых эмбрионов, что хотя и может уменьшить эффективность ЭКО, но позволяет достичь минимальной угрозы редукции и т.д. Вообще же, детально в Православной Церкви данный вопрос не разработан и существует много спорных моментов.

Вернемся же к вопросам, которые поднимались на Синоде. Так, Президент снова традиционно отметил роль Православной Церкви в межконфессиональном мире и стабильности, а также традиционно напомнил о той финансовой помощи, которую государство оказывает БПЦ. Не новым мотивом в этом контексте прозвучали слова Александра Лукашенко о том, чего теперь он от Православной Церкви ждет: «Белорусская Православная Церковь призвана жить интересами страны, используя при необходимости для их защиты все свои связи и международный авторитет ...Это обязанность Церкви служить народу, государству, в которой живет этот народ... Сегодня ваша гражданская позиция и пастырское слово призваны способствовать укреплению стабильности и спокойствия в обществе». Это звучит целиком в русле политики «сергианства», связанной с декларацией Митрополита Сергия Страгородского, где он отождествляет интересы Советского Союза с интересами Церкви: «Мы хотим быть православными и того же время сознавать Советский Союз нашей гражданской родиной, радости и успехи которой — наши радости и успехи, а неудачи — наши неудачи. Всякий удар, направленный в Союз, будь то война, бойкот, какое-нибудь общественное бедствие или просто убийство из-за угла... сознается нами как удар, направленный в нас». В принципе, можно сказать, что пока Православная Церковь, особенно ее руководство, не давала повода заподозрить себя в «антигосударственной» деятельности. Как же будут преодолеваться конфликтные моменты, подобные заявлению прот. Лепина? Какова будет здесь роль православной общественности, которая после 19 декабря позволила себе вступить в некоторое противостояние с иерархией по поводу

интерпретации событий, связанных с президентскими выборами. Напомним, что и предшественник Сергия Лепина в должности пресс-секретаря Андрей Петрашкевич высказал довольно оппозиционное мнение, настаивая на необходимости печатания известных писем православных верующих в официальной газете Минской епархии «Церковное слово» , за что, в т.ч., и был уволен с занимаемой должности.

Довольно ярким примечанием в контексте охлаждения отношений президента с БПЦ стало его следующее заявление на встрече с Синодом: «Думаю, что и Церкви в том числе, надо перестать рассчитывать только на ресурсы государства. Надо быть активнее самим, шире привлекать спонсорскую поддержку и пожертвования». На самом деле такая позиция может привести к улучшению материального положения Церкви, при условии, что государство будет разрешать открыто получать гранты церковным учреждениям, т. к. те финансовые поступления, что может предложить государство, слишком малы в сравнении с возможной иностранной спонсорской помощью. Как сообщают источники в церковных ресурсных организациях, действительно, получение таких зарубежных грантов значительно упростилось в последние месяцы. Вероятно, что это связано с нехваткой в стране валюты, а церковные гранты могут стать источником легального поступления этой валюты через банковскую систему. Более того, в скором времени может сложиться совершенно противоположная ситуация: при дефиците финансовых ресурсов в государстве уже не государство будет финансировать Православную Церковь, но будет брать ресурсы у Православной Церкви. И здесь речь идет не только о грантах церковных организаций, но и о возможном взаимодействии с теми церковными организациями, которые осуществляют внешнеэкономическую деятельность. Например, Свято-Елизаветинский монастырь пользуется тем, что как религиозная организация при распространении своей (и не только своей) продукции освобождается от налогов, т. к. продажа предметов религиозного назначения в полном смысле не является продажей, но передачей культового предмета за пожертвование. Данный монастырь ведет широкую экономическую деятельность в странах ближнего, дальнего и очень дальнего зарубежья, получая таким образом довольно впечатляющий валютный финансовый поток. И если такая деятельность лишь изредка привлекала внимание государственных органов, в частности, таможенного комитета, и оканчивалась конфискацией мизерной части продукции, то теперь, без сомнения, государство будет следить за такой деятельностью более внимательно, конвертируя международные связи БПЦ не только в символический, но и во вполне реальный финансовый капитал.




**Свята-Елізавецінскі манастыр у Мінску**

Если раньше традиционным было посещение А. Лукашенко пасхального богослужения в кафедральном соборе — главном храме страны, то сейчас очевидно, что у президента выработалась новая традиция — в кафедральном соборе на праздники не бывать. Он проигнорировал богослужения в прошлом году, а в этом году на Рождество был на закрытой встрече во Всех-Святском храме, где настоятельствует лояльный к нему прот. Федор Повный, а на Пасху — на богослужении в Чернобыльском регионе. Такая тенденция может свидетельствовать о том, что президент больше не чувствует себя уютно среди широкого круга православных верующих, т. к. высказываний лояльности со стороны православной общественности и священнослужителей в его отношении все меньше. Возможно, он боится и каких-то провокаций, так как контролировать большую группу народа в кафедральном соборе намного сложнее, чем в закрытом пространстве «только для избранных» или в регионах.

Еще одно событие, о котором стоит упомянуть, говоря о церковно-государственных отношениях, это попытка посещения священниками БПЦ политзаключенных в СИЗО КГБ, в частности, Павла Северинца. Договоренности о возможности такого посещения между БПЦ и КГБ есть, но в данном случае государство не придерживается взятых на себя обязательств допускать священника к заключенным в данном учреждении, и никоим образом достичь этого невозможно, даже если за дело берется не простой священник, а иерарх, как в данном случае, епископ Вениамин. Безусловно, для БПЦ этот вопрос не столь принципиальный, может, даже некоторые люди из руководства и довольны, что посетить Северинца не могут из-за позиции государственных органов. Таким образом, получается и государство особо не злить, и лицо перед оппозицией сохранить, однако все же довольно большое количество священников пыталось навестить Павла в заключении, и это не могло остаться незамеченным со стороны государственных органов, тем более тех, в ведомстве которых и находится изолятор. Со стороны же православной общественности — как мирянской, так и священнической — не может остаться незамеченной настоящая позиция государственных органов относительно любых соглашений и касательно Православной Церкви вообще: лояльный — значит православный, нелояльный — значит никакие преимущества, которые дают договоренности с Церковью, на тебя не распространяются.

И эта ситуация в конце концов может взорваться. Возможно, что такой взрыв произойдет и на предстоящем в конце мая общем епархиальном собрании Минской епархии, куда соберутся практически все клирики, представители монастырей и Минских духовных школ. Проведение такого собрания — это уже взрыв, так как последний раз подобное мероприятие, хотя по уставу РПЦ должно происходить регулярно не реже одного раза в год, последний раз имело место в начале 2000-х годов. Надо отметить, что вследствие состояния здоровья правящего архиерея, а также большего разрастания епархии, связь между клириком и епископом стала не только менее интенсивной, но и опосредованной через благочиния и епархиального секретаря. К тому же, долгое время подобные мероприятия не проводились, и в ,все вышеперечисленное породило фрустрацию у клира, у которого накопилось много вопросов и проблем. Поэтому ход епархиального собрания трудно даже прогнозировать, но явно, если не в повестке дня, то в кулуарах священнослужители обсудят и имеющуюся в епархии ситуацию, и ситуацию в стране вообще.

Возможно, что нас в сфере государственно-конфессиональных отношений ждут значительные изменения, как шутят на этот счет в блогах — "запасаемся попкорном", хотя пока не ясно, что нам придется созерцать: комедию, психологическую драму, триллер или фильм ужасов.

*«ARCHE», 12 траўня 2011 г.*

**Бюлетэнь**
**«За свабоднае веравызнанне»**
**Bulletin of «For Freedom of Religion»**
№2 (28), красавік-чэрвень 2011

Паштовы адрас: 220002,
а/с 30, Мінск,Беларусь
**E-mail: info@forb.by**
**web-site: www.forreligiousfreedom.info**
Тэл.: (+375 17) 282-42-10

Наклад 299 асобнікаў

**Распаўсюджваецца бясплатна**